Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 470.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 8 траўня 1998 г. | № 47 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Беразоўскі ў Мінску

**Чакаецца, што сёння новы выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі сустрэнецца з прэзідэнтам Лукашэнкам. Шлях Беразоўскага ў Мінск пралёг праз Кішынёў і Кіеў, дзе ён абмяркоўваў пытанні рэканструкцыі СНД з малдаўскім і ўкраінскім прэзідэнтамі.**

Учора ў штаб-кватэры СНД яшчэ не мелі дакладнай праграмы візіту Беразоўскага, але сказалі, што новы сакратар будзе мець вельмі мала часу ў Мінску, бо збіраецца ў Баку. Відаць, у Барыса Абрамавіча з Аляксандрам Рыгоравічам няма спрэчных пытанняў. Плануецца, што Барыс Беразоўскі ўсё ж знойдзе час для гутаркі з ветэранам СНД Іванам Каратчэнем. Магчыма, гэта адбудзецца ў лукашэнкаўскай рэзідэнцыі, а не ў штаб-кватэры. Паўнамоцныя прадстаўнікі краінаў СНД, якія працуюць у Мінску, настойваюць, каб новы сакратар не абмінуў штаб-кватэру. Магчыма, Барыс Беразоўскі прывязе для Івана Каратчэні якую-небудзь пасаду, а пакуль Каратчэня займае кабінет Беразоўскага.

Учора на брыфінгу для журналістаў намеснік міністра замежных справаў М.Бузо заявіў у адрас Каратчэні, што *«праца на працягу 6 гадоў у міжнароднай арганізацыі прыводзіць да яе акасцянення. Самы аптымальны тэрмін 5 гадоў (год прывыкаючы, чатыры працуючы)»*. Па словах М.Бузо, новы выканаўчы сакратар абмяркуе з Лукашэнкам *«накірункі работы сакратарыята ў перыяд рэфармавання СНД»*, а беларускі прэзідэнт выкажа «свае пажаданні».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Ці дапаможа Хілары Клінтан Паўлу Севярынцу?

**У Злучаных Штатах 10 траўня адзначаецца Дзень Маці. У гэтае свята, якое з'яўляецца ў Амерыцы аналагам нашага 8 Сакавіка, асаблівая пашана выказваецца жанчынам-маці, бо менавіта яны подзвігам нараджэння дзіцяці працягваюць чалавечы род.**

Скарыстаўшыся нагодай свята, маці і жонкі беларускіх палітычных вязняў накіравалі пасланне жонцы амерыканскага прэзідэнта Хілары Клінтан. *«Мы, жанчыны Беларусі, больш не можам маўчаць. Мы зразумелі, што слёзы не дапамогуць і не пазбавяць нашых сыноў і мужоў ад зняваргаў і несправядлівасці з боку цяперашніх беларускіх уладаў»*, — пішуць у лісце да жонкі Біла Клінтана маці Шараметa, Шыдлоўскага, Лабковіча, Кабанчука, Сідуніка, жонкі Клімава, Кудзінава, Хашчавацкага, Хадыкі, сястра Севярынца ды родныя жанчыны іншых вязняў і пацярпелых ад рэжыму. *«Дзве бяды напаткалі Беларусь — Чарнобыль і рэжым Лукашэнкі»*, — сцвярджаецца ў пасланні. Яго аўтары заклікаюць жонку амерыканскага прэзідэнта і ўсіх жанчынаў Амерыкі *«сваім аўтарытэтам падтрымаць палітвязняў у Беларусі, беларускіх палітэмігрантаў, а таксама ўсіх грамадзянаў, якія абараняюць правы чалавека, змагаюцца за аднаўленне дэмакратыі і законнасці ў Беларусі»*.

У сераду пасланне было ўручанае ў рукі паслу ЗША ў Беларусі Дэніэлу Спекхарду. Па словах аўтараў ліста, амбасадар цікавіўся, ці звярталіся беларускія жанчыны з падобнымі пасланнямі ў Маскву. Сп.Спекхард атрымаў адказ, што на дапамогу «крамлёўскіх жонак» беларускія жанчыны ўжо не разлічваюць.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Да галадоўкі далучыліся дзеці

**У Верхнядзвінскім раёне выхавацель Асвейскай школы-інтэрната Пётр Ермачкоў абвясціў у аўторак галадоўку на працоўным месцы.**

Педагог быў супраць таго, што адміністрацыя школы-інтэрната ўсклала на выхавацеляў абавязкі адказваць за дзяцей нават тады, калі яны знаходзяцца на занятках у суседняй школе. Ермачкоў лічыць, што адказваць за выхаванцаў інтэрната павінны школьныя настаўнікі. Ён патэлефанаваў начальніку раённага аддзела народнай адукацыі і папярэдзіў: пакуль РАНА не ўрэгулюе пытанне аб адказнасці за дзяцей, ён абвяшчае галадоўку. Да гэтага патрабавання Ермачкоў далучыў яшчэ адно — аб дадатковым фінансаванні школы-інтэрната.

Праз некалькі гадзінаў у школу прыехаў начальнік Верхнядзвінскага РАНА, які адразу падпісаў загад, што адказваць за дзяцей павінны школьныя настаўнікі. Але Пётр Ермачкоў настойваў на тым, каб была выкананая і другая частка яго патрабаванняў. Загадчык РАНА гаворыць, што гэта немагчыма, бо ў бюджэце няма грошай. Выхавацеля гэты аргумент не пераканаў. На думку Ермачкова, калі дэпутаты Верхнядзвінскага райсавета знайшлі магчымасць выдаткаваць з бюджэту 80 мільёнаў рублёў на ўтрыманне райкама БПСМ, то і для дзяцей-сіротаў грошы павінны знайсціся. «Няўжо дабрабыт «лукамольцаў» важнейшы, чым становішча бедных дзяцей», — гаворыць выхавацель.

Учора раніцай да галадоўкі Пятра Ермачкова далучыліся вучні старэйшых класаў, яны адмовіліся есці на сняданак і заявілі, што будуць галадаць разам са сваім выхавацелем.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Выжываем хто як можа

Заробкі беларусаў выклікаюць здзіўленне ў замежнікаў — як можна жыць на такія грошы. Але ж з голаду ў нас пакуль ніхто, здаецца, не памёр. Беларусы маюць дастаткова кольскасць метадаў для выжывання. Наш народ навучыўся выкручвацца ў любых умовах.

Падзяленне на бедных і багатых у Беларусі было заўсёды. Як бы ні аспрэчвалі гэта камуністы, падзел быў і пры савецкай уладзе: можна параўнаць тагачасны ўзровень жыцця якога-небудзь настаўніка і наменклатурнага чыноўніка. Сёння гэты падзел стаў больш яўным і зразумелым. Праўда, крыху змянілася структура бедных і багатых.

### Хто сёння самы бедны?

Па-першае, гэта пенсіянеры. Сярэдняя беларуская пенсія цяпер не перавышае 20-30 долараў. Да катэгорыі бедных таксама можна аднесці работнікаў шматлікай бюджэтнай сферы — настаўнікаў (сёння ім плацяць недзе 40 долараў у месяц), медыцынскі персанал (медсястра атрымлівае не больш як 30-40 долараў), навуковых супрацоўнікаў (30 долараў). Не перавышае 30 долараў і заробак у супрацоўнікаў сферы сацыяльнага забеспячэння. Але самая вялікая група насельніцтва з вельмі нізкім узроўнем даходаў — сяляне. Даход на чалавека ў вёсцы не перавышае 20 долараў.

Калі пытаешся ў людзей, колькі трэба для нармальнага жыцця, то кожны называе сваю мерку. Сярод тых, хто зарабляе 30-40 долараў, планка адносна заможнага жыцця пачынаецца з заробку ў 100-150 долараў. На такіх заможных цягнуць, дарэчы, міліцыянты і супрацоўнікі іншых праваахоўных органаў, мытнікі, дробныя чыноўнікі.

Асобны выпадак — заробкі беларускага рабочага класа. Яны вельмі адрозніваюцца — у залежнасці ад прыбытковасці прадпрыемства і попыту на ягоную прадукцыю. Адносна высокімі лічацца заробкі ў галіне аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. Напрыклад, на такіх прадпрыемствах, як Мінскі завод колавых цягачоў, у снежні 1997 года сярэдні заробак складаў звыш 130 долараў, а на барысаўскім «БАТЭ» (вытворчасць аўтатрактарнага электраабсталявання) — больш за 160 долараў. Але і ў гэтай галіне прамысловасці ёсць прадпрыемствы з нізкімі заробкамі. Так, сярэдні працаўнік Смаргонскага агрэгатнага завода атрымлівае крыху больш за 50 долараў, на «Бабруйсксельмашы» — каля 48 долараў.



*Для гэтага чалавека асноўнай крыніцай выжывання з'яўляецца сметнік. Такіх людзей становіцца, на жаль, усё больш.*

Тым часам радыёэлектронная прамысловасць знаходзіцца ў такім стане, што некаторыя прадпрыемствы не могуць выплачваць сваім рабочым больш за 20-30 долараў у месяц.

Што ж датычыць заробкаў ад 150 долараў і вышэй, то гэта для Беларусі даволі рэдкая з'ява. Як сведчыць статыстыка, колькасць сем'яў з афіцыйным даходам на аднаго чалавека вышэй за 100 долараў у месяц не перавышае 7-8% ад агульнай колькасці. А даход больш за 120 долараў на чалавека маюць 3% сем'яў. Большасць жа мае даход на члена сям'і ў памеры 50-60 долараў у месяц. Колькасць такіх сем'яў складае 80 працэнтаў.

Зразумела, калі б беларусы жылі выключна на даходы, якія фіксуе дзяржаўная статыстыка, то іх фізічна ўжо б даўно не існавала. Дык за кошт чаго выжываем?

Для вясковых жыхароў асноўнай крыніцай выжывання з'яўляецца падсобная гаспадарка. А ў горадзе большасць людзей мае магчымасць атрымліваць дадатковыя даходы, працуючы ў некалькіх месцах. Другое альбо трэцяе месца іхняй працы знаходзіцца ў сектары так званай «шэрай» эканомікі. Рабочы на сваім станку вырабляе нейкія дэталі на замове або нешта рамантуе, настаўнік працуе рэпетытарам, нехта нечым гандлюе ў вольны ад асноўнай працы час і г.д. Зразумела, што з гэтых грошай ніхто не плаціць падаткаў, і міністэрства статыстыкі не ў стане ўлічыць, які рэальны даход мае чалавек.

Некаторыя, паспрабаваўшы гандлю, канчаткова мяняюць сваю прафесію, становяцца гандлярамі, прадпрымальнікамі. Дробнае прадпрымальніцтва ў Беларусі пачыналася якраз з так званых «чаўнакоў». Дарэчы, гандаль з Расіяй, Польшчай з'яўляецца вельмі значнай крыніцай нелегальнага даходу беларусаў. Мая знаёмая настаўніца падтрымлівае больш-менш прыстойны ўзровень жыцця за кошт гандлёвых паездак у Расію. Хто як можа, так і выжывае.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Прэтэнзіі «братоў-славянаў»

**Расія прэтэндуе амаль на трыста аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Украіны, сярод якіх нямала буйных прадпрыемстваў.**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Кіеве першы намеснік старшыні Фонду дзяржаўнай маёмасці Украіны Віталь Крукаў. У сваю чаргу, адзначыў ён, Украіна прэтэндуе на сто аб'ектаў, размешчаных на расійскай тэрыторыі. Адрозненне ў падыходах краінаў да праблемы ўрэгулявання міждзяржаўных маёмасных адносінаў, па словах В.Крукава, заключаецца ў тым, што Украіна адстойвае тэрытарыяльны прынцып (г.зн. аб'ект павінен належаць той дзяржаве, на тэрыторыі якой ён размяшчаецца), у той час як Расія настойвае на прынцыпе валодання (гэта азначае, што аб'ект павінен належаць той дзяржаве, якая ім дагэтуль фактычна валодала). Працяг перамоваў паміж дзяржаўнымі органамі прыватызацыі дзвюх краінаў па ўрэгуляванні міждзяржаўных маёмасных адносінаў запланаваны на канец гэтага месяца.

Па словах В.Крукава, Беларусь прэтэндуе на 15 аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Украіны, Малдова — на 211 аб'ектаў (пераважна гэта дробныя аб'екты); Украіна ж не мае маёмасных прэтэнзіяў да гэтых дзяржаваў.

*БелаПАН — УНІАН*

### Урачыстасці

***9 траўня з 10 да 11 гадзінаў у Мінску пройдзе традыцыйнае шэсце ветэранаў, у якім возьмуць удзел прэзідэнт Лукашэнка са світай сваіх чыноўнікаў, а таксама мітрапаліт Філарэт і кардынал Казімір Свёнтэк. Закончацца ўрачыстасці а 22-й гадзіне святочным салютам.***

### Акцыі

***Народны Фронт атрымаў дазвол на правядзенне 14 траўня ў Мінску шэсця і рок-канцэрта пад лозунгам «Свабоду палітвязням». Шэсце пачнецца ў 17:00 з плошчы Я.Коласа. Рок-канцэрт адбудзецца ў скверы Я.Купалы.***

### Лепшыя

***Падведзеныя вынікі конкурсу «Лепшы кіраўнік года-97». Імі прызнаныя генеральныя дырэктары мінскіх трактарнага завода Міхаіл Лявонаў і аўтамабільнага — Валянцін Гурыновіч. Конкурс быў арганізаваны Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыяй.***

### Запасы

***Намеснік дырэктара Віцебскага гарэлачнага завода быў затрыманы міліцыяй у момант вывазу з прадпрыемства дзвюх скрынак гарэлкі. Падчас вобыску ў яго дома і ў гаражы знайшлі яшчэ каля 500 пляшак гарэлкі віцебскай маркі.***

### Нелегалы

***15 грамадзянаў Бангладэш без дакументаў на права знаходжання ў нашай краіне затрыманыя ў прыгарадзе Мінска. Устаноўлена, што яны прыбылі з Масквы і збіраліся нелегальна пераправіцца праз беларускую мяжу ў адну з краінаў Заходняй Еўропы.***

# Паслоў высяляюць

## *Дыпламаты нязгодныя*

**Паслы шэрагу краінаў выказалі пратэст міністру замежных справаў Івану Антановічу.**

Прычына ў тым, што беларуская ўлады, насуперак заключаным раней дамоўленасцям, загадалі замежным дыпламатам выселіцца з арэндаваных імі рэзідэнцыяў у пасёлку Дразды каля Мінска.

Кіраўнікі дыпламатычных місіяў нагадалі І.Антановічу, што рашэнне аб іх высяленні з Драздоў супярэчыць Венскай канвенцыі і міжнародным нормам. У інтэрв'ю «Белорусской газете» італьянскі пасол Дж.Чэруці адзначыў, што дзеянні ўладаў з'яўляюцца «прыкладам» стабільнасці беларускага заканадаўства. Дамовы на карыстанне рэзідэнцыямі ў Драздах былі заключаныя паміж урадамі, а цяпер яны анулююцца. Рэзідэнцыі ў Драздах з'яўляюцца будынкамі пасольстваў, рабочыя офісы якіх знаходзяцца ў Мінску. Кіраўнікі дыпламатычных місіяў лічаць, што гэтая акцыя беларускіх уладаў носіць выключна палітычны характар.

Улады ж тлумачаць неабходнасць высялення з Драздоў тым, што ў пасёлку трэба тэрмінова рамантаваць камунікацыі. Нямецкае пасольства ў сваю чаргу прапанавала зрабіць гэта за свой кошт і без перасялення дыпламатаў. У ведамстве Ціцянкова, якое займаецца абслугоўваннем Драздоў, нам сказалі, што паспрабуюць скарыстаць прапанову нямецкай амбасады.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Лібералы думаюць пра выбары

**5 траўня на паседжанні палітсавета Аб'яднанай грамадзянскай партыі была абмеркаваная структура штаба па падрыхтоўцы да выбараў.**

Асаблівая ўвага надавалася праблеме кантролю за выбарамі. На думку Генадзя Карпенкі, сістэма кантролю за выбарамі павінна быць арганізавана Наглядальным саветам, створаным па ўзгадненні з усімі партыямі.

Палітсавет абмеркаваў прапанову Беларускага Хельсінкскага камітэта аб стварэнні Садружнасці дэмакратычных сілаў Беларусі. Намеснік старшыні АГП Аляксандр Дабравольскі сказаў, што «...*нікто не спрачаецца аб карыснасці аб'яднання. У Беларусі сапраўды існуе праблема раз'яднанасці дэмакратычных сілаў і ёсць неабходнасць у збліжэнні іх пазіцыяў. У той жа час, у рэспубліцы ўжо ёсць два каардынацыйныя дэмакратычныя цэнтры: Кансультатыйны савет (у які ўваходзяць шэсць партыяў), і Нацыянальны выканаўчы камітэт, створаны пры прэзідыуме Вярхоўнага Савета*». Палітсавет АГП адзначыў, што, у адпаведнасці са сваім статусам, грамадскія арганізацыі не маюць права займацца палітычнай дзейнасцю. Палітсавет даручыў Выканкаму АГП разгледзець пытанне аб арганізацыі агульнабеларускай канферэнцыі, пры шырокім удзеле рэгіянальных структураў для абмеркавання праблемаў адзінства дэмакратычных сілаў.

**Б.П.**

# Заклік Рады БНР

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі звярнулася да беларускага народа з заклікам далучацца да «руху грамадзянства БНР».**

Гэтая грамадская ініцыятыва ўзнікла летам 1997 год; яна ўяўляе сабой сімвалічнае ўступленне ў грамадзянства БНР — напісанне заявы на вернасць ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі, да ліку якіх адносяцца незалежнасць, дэмакратыя, павага правоў чалавека. *«Разам мы зробім нашую Бацькаўшчыну незалежнай і вольнай еўрапейскай дзяржавай, з якой не трэба будзе эміграваць, каб шукаць на чужыне лепшых умоваў жыцця, дзяржавай БЕЛАРУСКАЙ, улады якой не будуць здзеквацца з нашай спадчыны, нашай мовы, нашай культуры ды нашых людзей толькі за тое, што яны адмаўляюцца здраджваць сваёй Бацькаўшчыне»,* — гаворыцца ў звароце Рады БНР.

*БелаПАН*

# Кветкі ад Грамады

8 траўня прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада наведаюць Вайсковыя могілкі ў Мінску, каб ускласці кветкі на брацкую магілу загінуўшых у Вялікую Айчынную вайну. Сёлета кветкі будуць таксама ўскладзеныя да абеліска на магіле Героя Савецкага Саюза лётчыка штурмавой авіяцыі старшага лейтэнанта Барыса Акрэсціна, які загінуў у ліпені 1994-га пры вызваленні Беларусі ад фашызму. Геройскім імем сына Расіі названа школа ў Мінску, а таксама завулак, дзе знаходзіцца добра вядомы тысячам людзей спецпрыёмнік-размеркавальнік. Сённяшні рэжым ператварыў гэтую спецыфічную ўстанову ў сапраўдную каталажку — месца зняволення сучасных антыфашыстаў, якія падвяргаюцца палітычным рэпрэсіям. Ля магілы Б.Акрэсціна ёсць аб чым падумаць і памаўчаць...

*Прэс-служба БСДП*

# Аблава каля тэатра

**Акцыю пратэсту ў абарону палітычных зняволеных Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага правялі ў аўторак у Мінску актывісты Маладога Фронту.**




Нягледзячы на праліўны дождж, прыкладна 150 чалавек сабраліся на плошчы Я.Коласа, а потым пайшлі па праспекце Скарыны ў бок Опернага тэатра — традыцыйнага месца апазіцыйных мітынгаў. На працягу ўсяго маршруту нешматлікую калону суправаджала вялікая колькасць міліцыянтаў у форме і цывільным, а ў дварах каля прэзідэнцкай адміністрацыі стаялі дзесяткі машын і аўтобусаў з АМОНам і спецназам. Аднак дэманстранты без эксцэсаў дайшлі да Опернага, дзе на кароткім мітынгу выступілі сястра Паўла Севярынца, а таксама паэт Славамір Адамовіч і сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык. Напрыканцы акцыі радыкальна настроеныя маладыя людзі спалілі партрэт Лукашэнкі.

Мітынг скончыўся і наступіў час «хапуна». Баевікі ў цывільным злавілі каля 10 чалавек і адвезлі ў Цэнтральны РАУС. Падчас аблавы маладафронтаўскі актывіст Віктар Жагунь ледзь не паплаціўся ўласным жыццём: ратуючыся ад прэзідэнцкіх агентаў, ён выбег на дарогу і быў збіты машынаю. Асобы ў цывільным закінулі акрываўленага хлопца ў машыну і павезлі ў пастарунак, і толькі адтуль малады хлопец «хуткай дапамогай» быў дастаўлены ў шпіталь. Усіх затрыманых праз пару гадзінаў выпусцілі, узяўшы ў іх тлумачэнні, чаму падчас шэсця яны выкрыквалі антыпрэзідэнцкія лозунгі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Зяцю Старавойтава далі 4 гады строгага рэжыму

**У Кіраўскую Магілёўскай вобласці завяршыўся працэс над дачкой і зяцем былога кіраўніка «Рассвета» Васіля Старавойтава.**

Зяць Старавойтава Сяргей Жалабаеў і ягоная жонка Таццяна прызнаныя Кіраўскім судом вінаватымі ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці, а Жалабаеў яшчэ і ў захаванні зброі. Ён атрымаў 4 гады калоніі строгага рэжыму, а ягоная жонка — 3 гады ўмоўна. У апошнім слове абодва не прызналі сябе вінаватымі. Сяргей Жалабаеў пагадзіўся толькі з тым, што незаконна захоўваў зброю. Па ягоных словах, ён набыў пісталет у мінулым годзе, калі пачаў атрымліваць пагрозы ад невядомых асобаў.

Варта звярнуць увагу на своеасаблівасці працэсу, які праходзіў пад старшынствам суддзі Надзеі Чмары. На працягу двух тыдняў паседжанні доўжыліся ўсяго па дзве-тры гадзіны на дзень. На думку адвакатаў, прадстаўленая на судзе база доказаў была вельмі хісткай і супярэчлівай. Нарэшце, на 4 траўня было прызначанае вынясенне прысуду, але ў гэты дзень нечакана для адвакатаў і падсудных суддзя Чмара абвесціла перапынак. Было заяўлена, што неабходна высветліць яшчэ некаторыя факты, і таму прысуду прыйдзецца пачакаць як мінімум да 12 траўня. Аднак ужо праз дзень гэтае рашэнне кардынальна змянілася. Раніцай 6 траўня паседжанне было раптоўна адноўленае і цягнулася да «пераможнага канца». Прысуд Сяргей і Таццяна Жалабаевы пачулі, калі за вокнамі суда ўжо пачало цямнець.

Назіральнікі звязваюць тое, у якім ліхаманкавым тэмпе быў завершаны гэты працэс, з падрыхтоўкай да прыезду ў Кіраўскі раён прэзідэнта Лукашэнкі. 7 траўня Рыгоравіча чакалі ў раёне, у тым ліку і ў Мышкавічах, дзе знаходзіцца цэнтральная сядзіба «Рассвета». Да прыезду прэзідэнта Лукашэнкі былую вотчыну двойчы героя Васіля Старавойтава прыбралі ў прамым і пераносным сэнсах. Цяпер гэта ўжо не акцыянерное таварыства, а звычайны калгас. Арышты былых «рассветаўцаў» працягваюцца. Па нашых дадзеных, ужо арыштавана, асуджана ці прыцягнута да адказнасці 36 чалавек. Апошнім на мінулым тыдні быў арыштаваны былы намеснік Старавойтава Анатоль Бляўскі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Хочаш жыць – пішы заяву

У адпаведнасці з даручэннем Сауміна, Гомельскі аблвыканкам прыняў рашэнне правесці да 15 траўня перарэгістрацыю грамадзянаў, якія жадаюць перасяліцца з радыяцыйна забруджаных тэрыторыяў.

Перарэгістрацыі падлягаюць жыхары зоны 15-40 кюры, якія павінны будуць напісаць заявы на атрыманне кватэр у чыстых раёнах або пісьмова адмовіцца ад перасялення. Гэткім чынам дзяржава спрабуе паставіць апошнюю кропку ў дванаццацігадовай эпапеі пад назвай «адсяленне».

Усяго за гэты час было адселена 134 тысячы чалавек. Засталося перасяліць не так ужо і многа. Прыкладам, у Брагінскім раёне адсяленню падлягаюць 380 сем'яў. У Чачэрскім — каля 40.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



# Брагін ажывае

**За постчарнобыльскі час тройчы адсяляўся (ды так і не быў пераселены) гарадскі пасёлак Брагін Гомельскай вобласці**

У сувязі з «чамаданнымі» настроямі тут за 10 гадоў не было пабудавана ніводнага жылога дома, і райцэнтр літаральна прыйшоў у заняпад. Але падобна на тое, што, справіўшы сваё 850-годдзе, старажытны Брагін набыў новы імпульс да жыцця. Тут пабудавана, нарэшце, станцыя абезжалезвання вады, падведзены прыродны газ, а ў кватэрах гараджан цяпер штодзённа ёсць гарачая вада. Але самае аптымістычнае тое, што нараджальнасць тут, нарэшце, перавысіла смяротнасць.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# А ты купіў ваўчар?

**Надыходзіць час летняга адпачынку. Міністэрства турызму падрыхтавала аматарам падарожжаў за мяжу спецыяльны турысцкі ваўчар.**

З 1 чэрвеня ўсе турфірмы павінны выпісваць грамадзянам нашай краіны аднолькавыя турваўчары, бланкі якіх прадае дзяржаўны канцэрн «Белінтурыст». Для нашых грамадзянаў гэтая паперка каштуе два долары (у рублях).

Турысцкі ваўчар, як патлумачылі мне ў міністэрстве турызму, не з'яўляецца пропускам праз мяжу. Памежнікі не правяраюць яго наяўнасць у турыста. Беларускі ваўчар — гэта гаспадарча-фінансавы дакумент, які дапамагае кантраляваць дзейнасць турфірмаў. Ён мае серыю, нумар і ажно 16 ступеняў абароны. Падрабіць яго практычна немагчыма. Запаўняюць ваўчар супрацоўнікі турфірмы, куды звярнуўся кліент. Як паведамілі ў турфірмах, цяпер грамадзянін нашай краіны для падарожжа за мяжу павінен набываць два ваўчары (беларускі і, напрыклад, польскі). Яму выпісваецца пуцёўка, заключаецца дамова. Словам, папераў стала болей. Супрацоўнікі турфірмаў лічаць ваўчары, якія прыдумала міністэрства турызму, проста лішняй паперкай, якая адбірае час, бо іх патрэбна набыць у дзяржавы, запоўніць, зарэгістраваць і г.д.

Навошта патрэбен ваўчар, калі яго не пытаюцца памежнікі, ніхто не разумее. На маю думку, гэты дакумент уведзены толькі дзеля таго, каб спрасціць працу падатковай інспекцыі. Але чаму за гэта павінны плаціць грамадзяне?

На думку чыноўнікаў міністэрства турызму, ваўчар дазваляе дзяржаве вырашыць яшчэ адну праблему. У мінулым годзе ў беларускія консульствы за мяжою звярнуліся каля дзвюх тысячаў нашых грамадзянаў, якія згубілі асабістыя дакументы. Большая частка з іх былі турыстамі. Нашыя консульствы патрацілі 40 тысячаў долараў для вырашэння розных пытанняў з гэтымі грамадзянамі. Цяпер за ўсялякія «няштатныя» сітуацыі павінны будуць плаціць турфірмы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Барацьба за дах над галавой

Калі за 70 гадоў першыя сакратары не вырашылі ў савецкай Беларусі жыллёвую праблему, дык малаверагодна, што першы прэзідэнт постсавецкай РБ зробіць гэта за 7 гадоў, якія ён сам сабе адмераў. Праўда, нешта там робіць, указы піша. Больш, канешне, як заўжды, шуміхі, палітычнай рэкламы. Аднак ёсць і нейкія зрухі. Хаця афіцыйныя «рупары» па завядзёнцы робяць з мухі слана.

Летась у Гродзенскай вобласці ўсяго 6% сем'яў, якія стаяць у чарзе, атрымалі кватэры. І гэта пры «павышаных» тэмпах будаўніцтва, пра якія ўсе «вушы пражужжалі». Тым часам у вобласці 64 тысячы сем'яў чакаюць кватэры. З кожным годам іх будзе ўсё больш: дзеці растуць, жэняцца. Для ўладаў у кватэрным пытанні ёсць толькі адна палёгка: нараджаецца людзей менш, чымсьці памірае. Зрэшты, кватэрная чарга ад гэтага пакуль не змяншаецца.

Калі прыняць за аксіёму тое, што ва ўсіх гэтых «саюзах» вырашыць жыллёвую праблему ў прынцыпе немагчыма, дык трэба прызнаць і яшчэ адну відавочную ісціну. А менавіта: лепшае жыллё прызначанае начальству, і многія начальнікі імкнуцца выкарыстаць сваю пасаду, каб гэта даказаць. Ах, якое ж неабсяжнае поле для дзейнасці маюць тут непадкупныя прэзідэнцкія кантралёры! Сам прэзідэнт з розных трыбунаў на ўсё наваколле папярэджваў: за злоўжыванні — у турму! Маўляў, усё лепшае — людзям працы, простым беларусам.

Самі разумееце: пісаць на сваё ж начальства — справа небяспечная, можна зусім без працы застацца. Але бывае пішуць. Напрыклад, работнікі Астравецкага аўтапарка паскардзіліся напрасткі ў прэзідэнцкую адміністрацыю на свайго дырэктара А.Стручко. Дапамагло! Была створаная камісія, якая высветліла наступнае. «Шчодры» дырэктар выдзеліў чатыры кватэры тым, хто не стаяў у чарзе і меў жытло. У тым ліку дзве двухпакаёўкі дасталіся сваякам ягонай жонкі. Яшчэ сем кватэр былі прададзеныя людзям, якія не мелі дачынення да аўтапарка, прычым па «смешна нізкіх» цэнах. І зноў-такі, з іх тры кватэры атрымалі дырэктарскія сваякі. Спрытна? Ну і што з таго? Вызвалілі яго з пасады і ўсё. Затое чалавек напоўніцу пакарыстаўся службовым становішчам, усю радню забяспечыў.

Але ёсць і іншыя прыклады. Начальнік абласнога КДБ палкоўнік Мацюшка купіў сабе амаль за 55 тысячаў долараў 4-пакаёвую кватэру, якая раней належала маскоўскаму генералу — цяперашняму начальніку расійскага генштаба Квашніну. Прычым, купіў не на ўласныя сродкі, а на грошы, якія аблвыканкам выдзеліў на ўсіх супрацоўнікаў. Абражаныя такім учынкам свайго начальніка, яны напісалі ліст самому прэзідэнту, а дзеля пэўнасці адначасова надрукавалі яго ў адной незалежнай газеце. У гэтым і была іхняя памылка. «Указанняў» недзяржаўнай прэсы Лукашэнка не цярпіць. А тут яшчэ да справы далучыўся апазіцыянер Сямён Домаш, які падрабязна паведаміў, як палкоўнік набываў генеральскую кватэру. Вынікам стала невыразная заява прэс-цэнтра КДБ РБ, якую чамусьці надрукавалі ўсе раённыя газеты Гродзенскай вобласці. У ёй нічога не абвяргаецца, а толькі гаворыцца, што нібыта афіцэрскі сход абласнога КДБ «выказаў катэгарычную нязгоду са зместам» газетных публікацыяў. Вось дык абвяржэнне! Ну так, вядома: сабраў палкоўнік сваіх падначаленых апераў, і яны адкрытым галасаваннем яго падтрымалі. А хіба магло быць інакш? І тым больш ніхто з іх не дадумаўся пацікавіцца, як начальнік умудрыўся заплаціць такія шалёныя грошы за адну 4-пакаёвую кватэру, калі за іх у Гродне можна было купіць дзве?



Так, адна справа, калі ў прэзідэнцкую адміністрацыю звяртаецца група рабочых, раззлаваных «кватэрным свавольствам» свайго начальніка. Дзеля папулізму можна ўчыніць трыумф «сацыяльнай справядлівасці». Зусім іншае, калі падобныя факты прыводзяць апазіцыйныя палітыкі і незалежная прэса. Яны Лукашэнку не ўказка. Таму прэзідэнцкую адміністрацыю таксама «не зацікавіла», што кіраўнік абласнога дзяржкантролю Праташчык раптам пасяліўся ў самым дарагім доме Гродзенскай вобласці — пабудаваным для ракетчыкаў за грошы амерыканскага ўрада. Толькі прыватызацыя кватэры ў ім каштуе ажно 9 тысячаў долараў! Зноў-такі «вінаватыя» апазіцыйныя палітыкі, якія гэты факт абнародавалі ў прэсе. Бо Лукашэнка ніколі не стане дзейнічаць па іхняй парадзе, а заўсёды зробіць наадварот.

Паколькі пакупка суперкватэры для палкоўніка Мацюшкі адбылася з блаславення кіраўніка аблвыканкама Дубко, дык усе спробы Домаша дамагчыся справядлівасці тым больш выглядалі марнымі. Напэўна, памірыць усіх вырашыў польскі консул, які дадумаўся сабраць за адным сталом мэра горада Пашкевіча, кантралёршу Праташчык, шэфа КДБ Мацюшку, апазіцыянера Домаша і губернатара Дубко. Фуршэт адбыўся ў Гродне з нагоды свята Канстытуцыі Рэчы Паспалітай. Раней на падобныя мерапрыемствы ў польскае консульства запрашаліся прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў, творчая інтэлігенцыя. Цяперашні генконсул С.Шостак пажадаў выпіць кілішак з шэфам КДБ! Дарэчы, начальства абурылася, што разам з імі быў запрошаны таксама Домаш, і піць з ім на брудэршафт не стала. Замест гэтага Сямён Домаш атрымаў па пошце паведамленне, што яго з сям'ёй высяляюць з дома да 1 чэрвеня. Рашэнне прынятае гарадскімі ўладамі. Адпомсцілі як мае быць!

Але ўлады ў нас не такія ўжо «крыважэрныя». Нядаўна вось вырашылі, што някепска было б дзеля рэкламы даць без чаргі кватэру сям'і, у якой нарадзіліся трайняткі. Прапагандысцкі эфект бяспройгрышны, калі ўлічыць, што ў Гродне нараджэнне трайнятак адзначана ўпершыню за апошнія пяць гадоў.

**Алена НОВІКАВА**

## АБСЕ назірае

**Дарадца назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Элен Канкіевіч пабывала ў Віцебску.**

Падчас сустрэчы з кіраўнікамі мясцовых няўрадавых арганізацыяў спадарыні Канкіевіч былі прадстаўлены сведчанні парушэнняў артыкулаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і беларускай Канстытуцыі 1994 года з боку мясцовых уладаў. Па словах удзельнікаў сустрэчы, асаблівую ўвагу прадстаўніка АБСЕ прыцягнулі выпадкі парушэнняў правоў чалавека на свабоду перакanання і іх свабоднае выказванне, а таксама на свабоду атрымання і распаўсюджвання інфармацыі.

*БелаПАН*

## Шарэцкі ў раз'ездах

**Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі наведаўся ў Гродна.**

Ён сустрэўся з кіраўніцтвам каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва», пабываў у Саюзе палякаў. Госця цікавілі перспектывы развіцця дэмакратычнага руху на Гродзеншчыне, дзейнасць арганізацыяў нацыянальных меншасцяў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## У Гродне не разбагацееш

**На Гродзеншчыне больш за ўсіх зарабляюць банкаўскія работнікі.**

У сакавіку іх зарплата склала ў сярэднім 7 мільёнаў рублёў. За імі ідуць работнікі органаў кіравання — 5 мільёнаў рублёў. Крыху больш за 4 мільёны атрымалі ў сакавіку работнікі прамысловасці і жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У той жа час зарплата работнікаў сельскай гаспадаркі склала 2 мільёны 325 тысячаў, культуры — 2 мільёны 366 тысячаў, мастацтва — 2 мільёны 123 тысячы рублёў.

*БелаПАН*

# 300 бабруйскіх «спартанцаў»

**З 1 траўня бастуюць прыкладна тры сотні прыватных гандляроў бабруйскіх рынкаў, патрабуючы ад гарвыканкама змены ўмоваў гандлю. Гарадскія ўлады пакуль лічаць за лепшае не заўважаць гэтую акцыю пратэсту.**

У патрабаваннях, выкладзеных Бабруйскаму гарвыканкаму, прыватныя гандляры рынкаў патрабуюць не так ужо і мала. Яны дамагаюцца карэкціроўкі правілаў сертыфікацыі тавараў, просяць зняць з іх 5-працэнтны падатак з прыбытку, які, згодна з рашэннем гарвыканкама, ідзе на развіццё гарадскога транспарту, а таксама прапануюць зноў злучыць харчовы і прамысловы рынкі Бабруйска. На думку прадпрымальнікаў, раздзяленне рынкаў, праведзенае прыкладна паўгода таму, не спрыяе павелічэнню гандлёвага абароту. Гандляры ўжо шмат разоў выказвалі свае прэтэнзіі гарадскім уладам і, не адчуўшы рэакцыі ў адказ, вырашылі страйкаваць. Ужо цэлы тыдзень пустуе частка гандлёвых радоў як на харчовым, так і на рэчавым рынках. Пакупнікоў гэта не радуе.

Між тым гарадская ўлада абрала даволі цікавую тактыку вырашэння канфлікту. Акцыю прадпрымальнікаў гарвыканкам увогуле не лічыць страйкам, а таму і не збіраецца саступаць. *«Гэта асабістая справа прадпрымальнікаў — працаваць ці адпачываць»,* — кажа намеснік старшыні гарвыканкама Віктар Гарбанёў. Ён лічыць патрабаванні гандляроў беспадстаўнымі. *«Аб якой адмене сертыфікацыі тавараў можа ісці гаворка, калі яны гандлююць недабраякаснымі турэцкімі таварамі, выдаючы іх за вырабы сусветна вядомых фірмаў?!»* — абураецца Гарбанёў. Транспартны падатак з прадпрымальнікаў ён лічыць справядлівай мерай. *«Прадпрыемствы ж плацяць мільярды, а чаму прадпрымальнікі не хочуць паспрыяць вырашэнню праблемы?»* — здзіўляецца намеснік старшыні гарвыканкама. Што тычыцца аб'яднання двух рынкаў, ён увогуле лічыць гэтую прапанову бязглуздзіцай. *«На старым рынку яблыку няма дзе ўпасці, — кажа Гарбанёў. — Хай страйкуюць. Дзякуючы іхняй забастоўцы мы атрымалі магчымасць адрамантаваць новы рынак».*

Прадпрымальнікі тым часам не здаюцца. У прынцыпе, яны не супраць сертыфікацыі тавараў, але просяць толькі, каб гэтая мера ўлічвала рэаліі. Чамусьці экзамен «на гігіенічнасць» павінны прайсці нават замежныя магнітафоны ці радыёпрыёмнікі. На нашыя «Гарызонты» гэтыя патрабаванні не распаўсюджваюцца. І гэтак па любой групе тавараў. У выніку жорсткія патрабаванні да сертыфікацыі імпартных тавараў абарочваюцца магчымасцю для чыноўнікаў атрымоўваць ад гандляроў хабар. А потым прыходзяць яшчэ падатковыя інспектары і патрабуюць, апроч іншага, яшчэ і 5-працэнтны транспартны падатак. *«Адкуль на ўсё ўзяць грошы?»* — абураюцца гандляры. Яны слушна заўважаюць, што транспартны падатак чамусьці не накладаецца на дзяржаўных чыноўнікаў ды міліцыянтаў, заробкі якіх не меншыя, чым у прадпрымальнікаў. *«Калі тралейбусам карыстаюцца ўсе, хай усе і плацяць аднолькава»,* — заяўляюць гандляры.

Тым часам частка прадпрымальнікаў, якія не далучыліся да акцыі, выкупляюць працоўныя месцы тых, хто вырашыў «стаяць да канца». Калі так, то канец бабруйскаму прадпрымальніцтву сапраўды блізкі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

ПОЧТА

## Они думают только о своей лечкомиссии

Уважаемая редакция! Мы прочитали вашу статью о том, что здание Республиканского радиологического диспансера передается лечекомиссии, а сам диспансер переезжает в помещения минской водогрязелечебницы по ул.Макаёнка, 17.

Мы искренне возмущены этим вопиющим фактом, т.к. лишаемся водогрязелечебницы, нашей белорусской «жемчужины». Мы, пенсионеры, ветераны войны и труда, инвалиды, могли там проходить оздоровление и санаторно-курортное лечение, не выезжая за пределы Минска и республики. У нас и так забрали в 1998 г. льготы по оплате путевок в водогрязелечебницу. А теперь лишают и самого оздоровления, т.е. практическое сосуществование радиологического диспансера с его большим количеством диагностической аппаратуры и оздоровительного центра, где отпускаются минеральные ванны и грязевые процедуры, технически невозможно.

Такой переезд выгоден только высшим чиновникам, которым мало их привилегий. Они хотят отхватить для своей лечкомиссии еще одно здание. А пострадают простые люди, которым негде будет оздоравливаться.

**М.Ф.МАРКОВСКАЯ, С.И.МАТУЗ, А.И.СОРОКА** *(г. Минск)*

КАДРЫ





ДАГЕРРОТИП

# Наша победа не продается!

Семен БУКЧИН

...И вот снова приходит этот майский день, когда хочется сбросить с души всю политическую накипь последних лет, стряхнуть шелуху лжи, демагогии, всевозможных спекуляций. В этот день душа взыскует особой чистоты и ясности. Это говорит память об отце-фронтовике, детская память конца войны и, конечно же, послевоенных лет. Может быть, последний бастион, упрямо противостоящий попыткам осквернить его.

Нынче, как известно, на продажу пущено все. И всяк торгует всем, как может. А уж торг вокруг Победы идет давно, с начала горбачевской перестройки. Кто победил? Кого победили? Что защищали? Что получили в итоге? Какой ценой?

Разные политические силы, блоки, партии, функционеры извлекают из Победы, из «священной войны» свое, нужное только им и в данный момент. Торг идет на всем пространстве, именуемом бывшим Союзом. И за его рубежами тоже делят, кроят войну и Победу.




Солдат той войны, и погибший, и оставшийся в живых, поставлен ныне между Сталиным и Гитлером. На ветрах Истории. Стоит, щурясь под юпитерами новейших и старых «аналитиков». Они его щупают, изучают. Одни допрашивают: сознает ли, мол, какой несправедливый режим защищал? Другие пытают: не забыл ли, во имя чего с оружием в руках отстаивал..? А у него, солдата, вроде и аргументов нет. Кроме старых, давно известных: страну, семью свою защищал, приказ выполнял... Ну не хочет он про режим говорить. Потому что знает ему цену. Но сердцем понимает, что защищал другое... И не ради Сталина кровь проливал, хотя и выкрикивал в атаке его имя. Ради какой-то будущей, неведомой, лучшей жизни, в которую не мог не верить. Ибо после такой Войны и такой Победы жизнь не могла не стать лучше, чище, справедливее.

Какой она стала, наша жизнь после войны — это мы знаем. Безногие, выпрашивающие милостыню инвалиды на базарах и в поездах... Лагеря для тех, кто побывал в немецком плену... Десятки лет в очередях на квартиру-хрущевку... Хлебная пайка, слегка присыпанная сахаром...

«Но ведь нынче и этого нету!» Да, нету! Потому что тем самым Солдатом в каске, плащ-палатке и с автоматом на груди, что стоит чуть ли не в каждой нашей деревне, советская идеологическая машина прежде всего спекулировала как могла. Правда о войне, настоящая правда, ей не была нужна. А сам Солдат требовался ей прежде всего как знак, как символ, как памятник, наконец. Но не как живой человек. Потому что живой человек знал о войне больше, чем требовалось Системе.

Нужна ли правда о войне нынешнему режиму в Беларуси? Его адепты кричат на всех углах, что полицаи носили бело-красно-белые повязки. Их оппоненты возражают: национальная символика не виновата в том, что ее присвоили гитлеровские холуи, что красный флаг с серпом и молотом развевался и над бараками ГУЛАГа. В этот спор, как в яму, проваливается подлинная правда о войне. Войне именно в Беларуси, о которой, казалось бы, столько написано и сказано. Война в Беларуси еще ждет своего беспристрастного и справедливого историка... Проблем сотни. Нужна правда о коллаборационизме и национальном движении в годы войны. О партизанах — не только в героическом аспекте. О подполье и его жертвах. Да и тема «Белорусы и евреи в годы войны» далеко не исчерпывается прекрасными сюжетами о «праведниках». Наконец, что мы знаем о четырех годах оккупации? О том, как жили люди в больших и малых городах, в деревнях? Где свидетельства наших отцов и дедов, увы, уходящих поколений? Да, есть тысячи печатных страниц лжи или полуправды! Но где подлинное, не продиктованное сторонними соображениями слово? Поучиться нам здесь хотя бы у поляков...

Не думаю, впрочем, что полная правда о войне нужна нынешней власти. А пока мы наблюдаем старую историю. Нынешний режим, как и прежний советский, стремится приватизировать Победу. Себя он пытается отождествить с ней. И не только. Победа используется как идеологическое оружие против граждан, выступающих за подлинно независимую и суверенную Беларусь, за настоящее демократическое устройство нашего общества. Опять используются нехитрые приемы: дешевые лозунги, спекуляции на чувствах фронтовиков и, конечно же, подачки, подачки... Немножко к пенсии... Немножко к празднику... Много ли человеку надо? Доброе слово скажи — и тому рад будет.

А уж если пообещать возрождение Советского Союза, да еще в старых границах, а вместе с ним и всего «нашего замечательного прошлого», то тут можно и без дополнительного пайка обойтись. Слава Богу, не все ветераны у нас падки на подобные обещания, не всем застит глаза «высочайшая» лесть. Когда милиция колотит внука ветерана и тащит его в околоток только за то, что у юноши есть свое мнение о нынешней власти, большей агитации в пользу режима не требуется.

Власть стремится сегодня развратить и внука, и деда. Внука обещаниями и намеками со стороны БПСМ. Деда — все теми же подачками. Но наша Победа, но наше, а не ихнее 9 мая, упрямо не желает сочетаться с дубинками и воронками на улицах, с дикими постановлениями и распоряжениями, втаптывающими в грязь элементарные демократические традиции, с их, власти, откровенным презрением к белорусским национальным святыням, среди которых первейшая — язык.

Наша Победа не продается!

# Товарищ, не воруй!

*К этому сводится смысл антикоррупционных «обязательств», которые в эти дни принимают работники учреждений, организаций и предприятий*

Константин СКУРАТОВИЧ

Бумага эта родилась, очевидно, в недрах соответствующих органов, от которых она поступает к руководителям предприятий. Дальше дело выглядит так: сотрудника вызывают в дирекцию, вручают персональный бланк с отпечатанным текстом «отречения» от злоупотреблений, который тут же и подписывается. Или не подписывается — что бывает редко.

Обязательства работников интеллектуального труда и руководителей содержат, как и заповеди Моисея, 10 пунктов. Для рабочих число «заповедей» меньше, поскольку и их возможности «покоррумпировать» значительно меньше. Зато рабочий люд берет свое массовостью — почти каждый работяга что-нибудь тащит с работы. Ведь на заводах и фабриках часто попадает в отходы то, что во все советские времена использовалось для строительства и ремонта жилья населения. Да и всякие бытовые нужды при нынешних ценах на шурупы и гвозди стали бы для многих разорительными, не существуй госпредприятий, на которых все это можно взять. Причем безболезненно для производственного процесса.

Впрочем, простые люди, в массе своей проголосовавшие за необходимость борьбы с коррупцией, не должны сетовать, потому что порядок всегда начинают наводить снизу. Сегодня, как и в советские времена, белорусские тюрьмы переполнены, но, конечно же, не чиновниками-коррупционерами, а самыми простыми «несунами» или мелкими расхитителями. А таковым у нас может стать почти каждый, пожелай этого начальство.

Судите сами. Всякий «подписант» обязуется «не использовать своего служебного положения при решении вопросов, затрагивающих мои личные интересы или интересы членов моей семьи и близких родственников». Выходит, что человек, воспользовавшийся служебным телефоном для того, чтобы вызвать врача на дом к больному ребенку, — коррупционер? Полноте. Масса чиновного люда решает свои личные проблемы исключительно благодаря своему служебному положению. Даже самые принципиальные. Говорят, что за все годы советской власти был только один «отмороженный» — нарком продовольствия в ленинском Совнаркоме Цюрупа, будто бы упавший в голодный обморок на мешках с зерном. Думается, потому, что не подозревал, как из сырых злаков изготовить хлеб. Ведь в революционном подполье учили, что делать все это будут «товарищи рабочие и крестьяне» и после полной победы социализма.

Так, в принципе, и получилось. Они и сеют, и жнут, и пекут — за копейки. А начальство изобрело особый способ самоудовлетворения — блат. В условиях низких окладов и спецраспределения блат являлся оптимальным для решения личных проблем. «Ты мне — я тебе» — этот принцип на самом деле единственно возможный в нормальном обществе, в котором люди обмениваются (торгуют друг с другом) результатами собственного труда. Но он перестает быть таковым, когда люди распоряжаются тем, что им не принадлежит. А именно этим и занимаются чиновники в любой стране. При социализме, где государство отнимает у народа не только почти всю собственность, но и все права, блат, то бишь коррупция, превращается в способ существования всей системы, всей социальной жизни.

Но в современной Беларуси думают иначе. Поэтому от чиновника и требуют: клянись! Он и клянется. Но при этом задумывается: а как я могу не красть, если за душой нет ничего своего, а все только казенное? Действительно, как ему прожить, если не воровать?

## На бизнес в столице "наедут" по плану

**Стало известно о наличии в Минском горисполкоме плана мероприятий, призванного усилить контроль государства за частными предприятиями и еще больше усложнить процедуру их регистрации.**

Теперь прием учредительных документов на регистрацию вновь создаваемых субъектов хозяйствования должен производиться после сверки участия учредителей (участников) в ранее зарегистрированных субъектах хозяйствования г.Минска.

Кроме того, Мингорисполком планирует проводить выборочный компьютерный анализ с целью выявления физических лиц, являющихся учредителями (участниками) двух и более субъектов хозяйствования с правом юридического лица и разместивших два и более субъектов хозяйствования по одному юридическому (квартирному) адресу.

Невольно возникает вопрос: неужели белорусскими законами уже запрещено участвовать в двух и более субъектах хозяйствования? Ведь, как известно, в законе о собственности говорится, что количество собственности, находящейся в одних руках, не может быть ограничено.

Тем не менее есть вероятность, что столичный опыт будет распространен на всю страну.

*"Белорусский рынок"*

